# Беларус

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ

ЦАНА — PRICE ¢ 50

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431. Tel.: (212) 380-2036

Год XXIII, № 200 Нью Ёрк December — Сьнежань — 1973 New York Vol. XXIII, № 200


УСІМ НАШЫМ СУПРАЦОЎНІКАМ, ДАБРАДЗЕЯМ, ЧЫТАЧОМ І ПРЫХІЛЬНІКАМ, А ТАКСАМА ЎСЯМУ БЕЛАРУСКАМУ ГРАМАДЗТВУ

ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ

І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1974 ГОДУ

АД ШЧЫРАГА СЭРЦА ЖАДАЕ

*Рэдакцыйная Калегія „БЕЛАРУСА"*

# КАНФЭРЭНЦЫЯ Ў СПРАВЕ ШМАТКУЛЬТУРНАСЬЦІ КАНАДЫ

„На шляху да шматкультурнага грамадзтва" — гэткі быў дэвіз першае ў гісторыі Канады, ды хіба й усяго сьвету, канфэрэнцыі, якая абмяркоўвала пытаньне: як будаваць грамадзтва, у якім расьлі-б і красавалі адна побач другое розныя этнакультуры, кажная з сваёй апрычонай прыналежнасьцяй („айдэнтыты"), ды ўсе яны разам тварылі-б шырэйшую, агульную прыналежнасьць, у якой кажная група магла-б адчуваць роўнае зацікаўленьне.

Першую Канфэрэнцыю ў справе Шматкультурнасьці, якая адбылася 14, 15 і 16 кастрычніка 1973 у Атаве, арганізаваў Дэпартмэнт оф Сэкрэтэры оф Стэйт, Аддзел Грамадзянства ў супрацоўніцтве з Канадыйскай Кансультатыўнай Радай для справаў Шматкультурнасьці.

У спалучэньні, ды часткай гэтай канфэрэнцыі, быў і першы зьезд усяе Канадыйскае Кансультатыўнае Рады для Шматкультурнасьці. Ад часу пакліканьня гэтае Рады Міністрам Стану для справаў Шматкультурнасьці Д-рам Станлеем Гайдашам, у травені гэтага году адбываліся толькі рэгіянальныя (пяць раёнаў) паседжаньні Рады. У найбольшым Антарыйскім раёне адбылося іх аж тры: у чырвені, жніўні й верасьні. Цяпер поўная Кансультатыўная Рада мела паседжаньне перад Канфэрэнцыяй 13 кастрычніка й пасьля яе 16 кастрычніка.

У Першай Канадыйскай Канфэрэнцыі для справаў Шматкультурнасьці ўзялі ўдзел усе (102) сябры Кансультатыўнай Рады ды каля 150-ці прадстаўнікоў розных этнічных групаў. Гэтыя прадстаўнікі адзначаліся з аднаго боку актыўным удзелам у дзяржаўным ці грамадзкім жыцьці сваіх груп, ды перадусім зацікаўленьнем і ведамі з розных галін культуры й права. Удзельнікі канфэрэнцыі былі з розных частак Канады, ад узьбярэжжа да ўзьбярэжжа, розных расаў, культур і веравызнаньняў, розных прафэсіяў і рознага веку. Ад Беларусаў на Канфэрэнцыі было двух прадстаўнікоў: Др. Раіса Жук-Грышкевіч, сябра Канадыйскай Кансультатыўнай Рады для Шматкультурнасьці й Маг. Алесь Грыцук.

Нарады адкрыў Старшыня Канфэрэнцыі Сэнатар Карль Гольдэнбэрг. Ён перадаў прывітаньні ад Прэм'ера Канады Піера Трудо, які ў той час быў у Кітаі. І ня была-б гэтая Канфэрэнцыя ў свой час адложаная, Прэм'ер Трудо быў-бы на ёй прысутны. Прамаўляў Сэнатар Пол Юзык, ды наканец Міністар Стану для справаў Шматкультурнасьці Др. Ст. Гайдаш разьвіў тэму „На шляху шматкультурнага грамадзтва". Ён прыпомніў, што толькі два гады таму, 8 кастрычніка 1971, Прэм'ер Канады Піер Эліёт Трудо абвесьціў у Парлямэнце афіцыйную праграму Фэдэральнага Ураду аб увядзеньні ў жыцьцё палітыкі шматкультурнасьці ў рамках двумоўнасьці. Гэтае абвешчаньне Прэм'ера абазначала прызнаньне Фэдэральным Урадам выснаву IV Кнігі „Ройал Комішын", якая падкрэсьліла значэньне ўкладу ў жыцьцё й культуру Канады міліёнаў Канадыйцаў, якія не зьяўляюцца ані ангельскага, ані францускага паходжаньня. „Я веру, — казаў Міністар Гайдаш — што палітыка шматкультурнасьці, якая азначае нішто іншае, як прызнаньне права кажнаму Канадыйцу на затрыманьне свае культурнае спадчыны ды адкіненьне „мэлтынг пот" канцэпцыі, ёсьць гэтаксама істотнай для нашай нацыянальнай еднасьці, як і палітыка двумоўнасьці". Палітыка Шматкультурнасьці адносіцца ня толькі да этна-культурных меншасьцяў, але й да ўсіх Канадыйцаў. Яна адносіцца да тубыльцаў, да англя — і франка-моўных Канадыйцаў, а таксама й да міліёнаў Канадыйцаў іншага паходжаньня. Яна ёсьць не часовай, а сталай. Довадам гэтага факт, што за такі кароткі час, як два гады, яна ўжо зрабіла ўплыў на краіну, бо шмат якія правінцыі прынялі праграмы дзеля ўвядзеньня яе ў жыцьцё. За такі кароткі час ужо шмат зроблена. Стваранае адумысловае Міністэрства, у лістападзе 1972 г. Др. Станлей Гайдаш быў назначаны Міністрам Стану для справаў Шматкультурнасьці. 17 травеня, 1973, Міністар Гайдаш абвесьціў пашыраную да сямёх пунктаў праграму: 1. Прыналежнасьць. 2. Субсыдыі для Шматкультурнасьці. 3. Шматкультурныя Цэнтры. 4. Студыі Шматкультурнасьці. 5. Шматкультурныя „Комюнікэйшын" (прэса, радыё, тэлебачаньне). 6. Канадыйская Шматкультурная Канфэрэнцыя. 7. Дапаможнікі навучаньня трэйцяе мовы. Міністар абвесьціў гэтаксама павялічаньне бюджэту, патрэбнага для стварэньня адміністратыўнага апарату дзеля праводжаньня палітыкі шматкультурнасьці ў жыцьцё.

„Сярод гэтых дасягненьняў — гаварыў Міністар Др. Гайдаш — найважнейшым ёсьць стварэньне Канадыйскай Кансультатыўнай Рады, 102 сябры якое бяруць удзел у гэтай Канфэрэнцыі. Яны былі выбраныя на падставе іхніх здольнасьцяў і дасягненьняў. І дзеля іхняга высока-рэпрэзэнтатыўнага характару, Рада згуляе вялікую дарадчую ролю, як у фармуляваньня мною палітыкі („полісы"), так і ў інфармаваньні мяне аб асьпірацыях тых Канадыйцаў, якіх гэтая палітыка будзе ў першую чаргу датычыць". Ды Кансультатыўная Рада не адзіная крыніца кансультацыі. Гэтая Канфэрэнцыя й беспасярэднія кантакты Міністра з грамадзкімі арганізацыямі ды наагул грамадзтвам будуць служыць таксама гэтым мэтам.

Каб выканаць сваё дарадчае заданьне, удзельнікі Канфэрэнцыі падзяліліся на шэсьць дыскусыйных групаў, тэмы якіх былі наступныя: 1. Мастацтва ў шматкультурным грамадзтве. 2. Дачыненьні моладзі да шматкультуралізму. 3. Змаганьне зь няроўнасьцяй (і дыскрымінацыяй). 4. Імігрант у шматкультурным грамадзтве. 5. Захаваньне мовы й культуры. 6. Перахоўваньне нашай шматкультурнай спадчыны (музэі, архівы, бібліятэкі).

У выніку дыскусіяў кажная група сфармулявала свае рэкамэндацыі, якія былі абмяркованыя на пленарнай сэсіі, што вынесла канчальную Рэзалюцыю-рэкамэндацыі для Міністра Гайдаша й Фэдэральнага Ураду.

Апрача Рэзалюцыі Першай Канадыйскай Канфэрэнцыі ў справе Шматкультурнасьці, Канадыйская Кансультатыўная Рада на сваёй пленарнай сэсіі вынесла асобную Рэзалюцыю, якая была вынікам дыскусіяў і рэзалюцыяў паасобных пяцёх раёнаў Кансультатыўнай Рады.

У праграму Канфэрэнцыі ўваходзіла таксама шматкультурная выстаўка й такі-ж канцэрт. Канфэрэнцыя была на вельмі высокім узроўні, была ўзбагачаючай і стымулюючай для яе ўдзельнікаў ды дала багаты кансультатыўны матар'ял для Міністра для справаў Шматкультурнасьці й Фэдэральнага Ураду.

## ПАЛІТЫКА ШМАТКУЛЬТУРНАСЬЦІ Й БЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКАСЬЦЬ КАНАДЫ

Першая Канадыйская Канфэрэнцыя ў справе Шматкультурнасьці была цікавай і карыснай, як для яе ўдзельнікаў, гэтак і Ураду й бязумоўна зробіць свой уплыў на фармаваньне галоўнага рэчышча шматкультурнай канадыйскай грамадзкасьці.

Ды нас цікавіць перш за ўсё пытаньне, якое-ж значаньне мае гэтая Канфэрэнцыя для нас Беларусаў, што выбралі Канаду за месца жыхарства для сябе й сваіх дзяцей? Якое значаньне для Беларусаў Канады мае палітыка шматкультурнасьці ў рамках двумоўнасьці? Як мы да яе маем ставіцца? Каб адказаць на гэтыя пытаньні, трэба сьпярша сабе ўсьведаміць, што азначае палітыка шматкультурнасьці ў межах двумоўнасьці.

Палітыка шматкультурнасьці ў межах двумоўнасьці азначае, што Канада мае дзьве раўнапраўныя ўрадавыя мовы, ангельскую й францускую, але шмат розных культур. І ніводная культура ў Канадзе, паводля права, ня мае пяршынства, а ўсе яны маюць роўнае права на жыцьцё й рост. Палітыка шматкультурнасьці азначае, што кажны Канадыец мае права захаваць сваю мову й сваю этна-культурную (нацыянальна-культурную) прыналежнасьць. І гэта зусім ня перашкаджае яму адчуваць сябе паўнавартасным Канадыйцам, так як гэта адчуваюць сябе англа-і франка-моўныя Канадыйцы. Кажны з нас мае права ганарыцца сваёй беларушчынай, скарбамі нашае нацыянальна-культурнае спадчыны, ганарыцца нашай мовай, нашымі звычаямі, стравамі, песьнямі, скокамі, нашым беларускім фальклёрам. Маем права дзяліцца здабыткамі нашае культуры зь іншымі Канадыйцамі й карыстаць із здабыткаў іхніх культур.

Канада сваёй палітыкай шматкультурнасьці шырака адчыняе нам дзьверы да магчымасьцяў ня толькі захаваньня нашае мовы й культуры, але й для іхнага разьвіцьця. Канада дае нам маральную, праўную й матар'яльную падтрымку для нашых беларуска-культурных патрэбаў і асьпірацыяў. Нам трэба толькі рабіць высілкі, бо бяз высілкаў няма й дасягненьняў. Нам трэба толькі выказаць сілу й волю да жыцьця й росту нашае беларускае грамадзкасьці ў Канадзе. Палітыка шматкультурнасьці вітае й ідзе напярэймы ўсім вартасным праявам жыцьця й высілкаў у галіне культуры. Яна кажа: рабеце, мы паможам! Яна кажа: арганізуйце свае школы, вучэце ў іх сваіх нашчадкаў свае мовы й культуры, пішэце й выдавайце ім падручнікі — мы паможам. Там, дзе ёсьць ініцыятыва, здольнасьці й высілкі грамады, там будзе й дапамога Ураду.

— Ці Беларусы выказаліся сілай і воляй да жыцьця?

— Бязумоўна, што выказаліся! Ці-ж ня маем мы нацыянальных, палітычных, культурных, рэлігійных арганізацыяў? Бязумоўна, маем! Ці-ж не аддаём мы чэсьці сваім выдатным продкам, не адзначаем з году ў год нашых нацыянальных сьвятаў, не арганізуем Сустрэчаў БПА? Ці-ж на раўні зь іншымі этнакультурнымі групамі Таронта не арганізуем з году ў год свой беларускі павільён МЕНСК? Ці-ж ня маем свае сьботнае школы, сваіх настаўнікаў? Ці-ж ня дбаем, каб школа й настаўнікі мелі адпаведныя падручнікі? Ці-ж ня маем Фонду Падручнікаў? Ці-ж ня маем людзей здольных і асьвечаных пісаць і складаць свае падручнікі? Усё гэта мы маем. І Падручнік Беларускае Мовы складаецца й хутка пойдзе ў друк. І на выданьне яго, дзякуючы палітыцы шматкультурнасьці, мы атрымалі ад Фэдэральнага Ураду субсыдыю ў суме $ 6,000.00.

Гэтая субсыдыя, прызначаная нам Міністрам для справаў Шматкультурнасьці Д-рам Станлей Гайдашам для выданьня Падручніка Беларускае Мовы, які мае абслугоўваць Беларусаў Канады, сьветчыць з аднаго боку аб жыцьці, дзейнасьці й высілках Беларусаў Канады, а з другога боку аб карыснасьці палітыкі шматкультурнасьці для беларускае этна-культурнае групы Канады. А калі так, дык пэўне, што гэтую палітыку мы вітаем, ды Міністру для справаў Шматкультурнасьці Д-ру Ст. Гайдашу і ягонай Кансультатыўнай Радзе жадаем посьпехаў. Ды яшчэ адно дасягненьне беларускай этна-культурнай групы ў Канадзе — гэта тое, што яна мае свой голас — прадстаўніка ў Канадыйскай Кансультатыўнай Радзе для справаў Шматкультурнасьці. Калі мы жадалі посьпехаў Міністру Д-ру Гайдашу, дык ня можам ня ўспомніць, не пажадаць посьпехаў ды не падзякаваць высокаму ўрадаўцу Фэдэральнага Ураду й прыяцелю беларускай грамадзкасьці Спадару Глену Алену за ягонае доўгагадовае прыязнае стаўленьне да Беларусаў, за ягоныя вартасныя парады й дапамогі.

Ды на дасягненьнях і здабытках спачываць нельга, бо перад намі ляжаць шырокія магчымасьці. Як на Бацькаўшчыне русыфікацыйная палітыка ўсімі спосабамі намагаецца здушыць і зьнішчыць беларускую мову й беларускую культуру, так тут у Канадзе, калі ласка, арганізуйце свае беларускія школы, тэатры, музэі, бібліятэкі — ўсё дазволена . . . толькі патрэбныя сілы, кадры, „мэнпаўэр".

— Ды „мэнпаўэр" можна ствараць. Амаль уся нашая моладзь вучыцца на канадыйскіх унівэрсытэтах, а там гартуюцца сілы, здабываюцца веды, творыцца „мэнпаўэр"! І на нашую моладзь мы глядзім, як на нашую надзею, сілу й будучыню нашае беларускае этна-культурнае грамадзкасьці Канады. Ды ці нашая моладзь да гэтага заданьня рыхтуецца?

**Раіса Жук-Грышкевіч**

## БЕЛАРУСКАЕ СТОІШЧА НА ВЫСТАЎЦЫ Ў ЧЫКАГА

Як і кажнага году, сёлета 17-18 лістапада адбылася ў Чыкага Міжнародная выстаўка нацыянальнага мастацтва й культуры, спалучаная зь кірмашом ды кулінарыяй розных народаў. У выстаўцы прыймалі ўдзел прадстаўніцтвы ад 50 народаў розных кантынэнтаў. За два дні наведала выстаўку больш за 100 тысячаў людзей розных расаў і нацыянальнасьцяў. Выстаўку адчыніў сам бурмістр Чыкагскай мэтраполіі Рычард Дэйлі ў асысьце рэпартэраў прэсы й тэлебачаньня. Пасьля ён абыйшоў сотні стоішчаў розных нацыянальнасьцяў ды іхных прадстаўнікоў. Пры беларускім культурна-нацыянальным стоішчы сустрэлі бурмістра ягоныя арганізатары, а таксама беларускае духавенства ў васобах біскупа Ч. Сіповіча, а. Уладзімера Тарасэвіча й а. Алега Мірановіча.

Сёлета чамусьці беларускае нацыянальна-культурнае стоішча апынілася на франтовым месцы ўсяе выстаўкі. Месца было адпушчанае прасторнае й рэпрэзэнтацыйнае. Кажны, хто ўваходзіў на выстаўку, перш-наперш знаёміўся зь Беларусьсю й Беларусамі. Тут раскошна было прадстаўленае беларускае народнае мастацтва: ткацтва й прадзіва з кроснамі, верацёнам і калаўротам, прасьніцай і іншымі прыладамі разам з майстрыхамі падчас прадзеньня: Кацяй Г. і Тарэсай Тарасэвіч; народныя арнаманты ў розных галінах мастацтва, цудоўныя лялькі ў народных строях, падушкі, сурвэткі, дываны, паясы, містэрна інкруставаныя саломай скрыначкі, абрусы, посьцілкі, ручнікі.

Асобнае месца было прысьвечанае 800-ым угодкам ад сьмерці слаўнай беларускай прасьветніцы — сьв. Еўфрасіньні Полацкай, памяць якой ушанавалі й патрыёты ў паняволенай Беларусі, не зважаючы на рэлігійнае й нацыянальнае перасьледваньне. На экспанатах зьяўляліся: цудоўная ікона Сьвятой з царквы Хрыста Збаўцы ў Чыкага, каляровыя рэпрадукцыі славутага крыжа сьв. Еўфрасіньні, адпаведная літаратура й надпісы аб Сьвятой у ангельскай мове, што сьцьвярджалі вялікую культурна-асьветніцкую ролю Сьвятой у XII стг. як на Беларусі, гэтак і ў тагачасным хрысьціянскім сьвеце — у Візантыі, Рыме і ў Сьвятой Зямлі. Гэта яна тварыла славу нашай тагачаснай дзяржаве Полацкай ды ўмацоўвала асновы ейнае незалежнасьці.

Трэйцяе месца заняла беларуская маленькая княжэўна нашых дзён — Вольга Корбут із сваімі сяброўкамі зь Менску й Віцебску, заваёўніца сэрцаў усяго сьвету сваімі спартовымі вычынамі й духовай паставай. Яна гэтым самым навязала лучнасьць духовую Беларусі з усім культурным сьветам. Ейнае стоішча выражалася масавымі рэпрадукцыямі ейных выступленьняў у ЗША, Ангельшчыне, Нямеччыне, у БССР, а таксама ў Маскве, ды шматлікай літаратурай. Стоішча гэтае зьвяртала на сябе асаблівую вялікую ўвагу наведвальнікаў.

У кулінарным стоішчы нашыя гаспадыні завіхаліся задаволіць зацікаўленасьць аматараў беларускай кухняй. Выглядала, што задаволены былі ўсе — гаспадыні й госьці.

У танцавальным мастацтве беларуская група дзяўчатаў хвацка выканала тры народныя танцы: Беларускую польку, Крыжачок і Лявоніху.

Што-ж можна яшчэ сказаць аб удзеле ў гэтай чароднай Міжнароднай падзеі-выстаўцы? Мне давялося зьведаць усю выстаўку ўсіх нацыянальнасьцяў. Я стараўся здабыць агульнае ўражаньне, каб прыраўняць да іншых у вялізным зборышчы мноства нацыянальнасьцяў наш беларускі высілак ды ягоны ўзровень. Пэўне-ж, масавасьцяй дамінуюць у Чыкага Палякі, Украінцы, Лятувісы, Жыды. Іхных стоішчаў хоць адбаўляй! Але ў іх няма тае цяплыні, якая веіць ад беларускіх стоішчаў. Многія нацыянальнасьці б'юць на прапаганду, дэмагогію, робячы зь сябе штучна ня тых, кім яны ўзапраўдна ёсьць. Гэта відаць з мапаў-картаграфіі, зь іхнага прысабечваньня чужога, з крыклівых лёзунгаў. Амэрыканцы, аказваецца, ня любяць гэткага самахвальства ды міма праходзяць каля гэткіх стоішчаў. Іх цікавіць людзкасьць, праўдзівасьць, сьціпласьць, арыгінальнасьць. Вось чаму беларускія стоішчы на выстаўцы, як і ў мінулых гадох, зьбіралі вакол сябе найбольшыя гурты наведвальнікаў.

**В. Карасэвіч**

## СУСТРЭЧА НОВАГА ГОДУ!

**Гэтым ветліва запрашаем усіх Беларусаў Нью Ёрку й ваколіцаў на ЎРАЧЫСТУЮ СУСТРЭЧУ НОВАГА 1974 ГОДУ якая адбудзецца ў панядзелак 31 сьнежня а 9-ай гадзіне ўвечары ў залі Беларускага Грамадзкага Цэнтру (401 Атлянтык эвэню ў Брукліне).**

**Уваход: для дарослых — 10 дал., для дзяцей — 2 дал.**

**УПРАВА АКРУГІ БАЗА НЬЮ ЁРК**

**ГАЛОЎНАЯ ЎПРАВА АРГАНІЗАЦЫІ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ МОЛАДЗІ**

*ветліва запрашае ўсіх Беларусаў на*

## ТАНЦАВАЛЬНЫ ВЕЧАР

**які адбудзецца 19 студзеня 1974 г. ў залі Шака ў Саўт Рывэры, Нью Джэрзі.**

У праграме Вечару: мастацкая частка, багаты буфэт, лятарэя, неспадзеўкі.

**Грае аркестра Я. Жыдовіча.**

Пачатак а 9-ай гадз. увечары. Уступ $ 4 ад дарослых, $ 3 — ад моладзі. Даход на часапіс „Беларуская Моладзь"

 



# ЧОРНАЕ ВЯЗЬМО ЗЬВЯЗВАЕ ДЗЬВЕ ДЫНАСТЫІ

## НОВЫЯ ЦАРЫ АПРАЎДВАЮЦЬ АГРЭСЫЮ Й ЭКСПАНСЫЮ СТАРЫХ ЦАРОЎ

**Пад гэткім загалоўкам Кітайскае агенцтва Сінхуа перадало 25 жніўня сёлета перадачу цераз Пэкінскае радыё на кітайскай, ангельскай і расейскай мовах. Казацкая Бібліятэка ў Нью Ёрку пераслала нам поўны тэкст гэтай перадачы, які, выказваючы адначасна падзяку Казацкай Бібліятэцы, ніжэй зьмяшчаем у значным скарачэньні.**

⁂

„Царская Расея праводзіла агрэсыю за агрэсыяй і тэрытарыяльную экспансыю на працягу даўгога пэрыяду ў гісторыі. Факт гэты ведамы ўсім. Рэвалюцыйныя настаўнікі пралетарыяту К. Маркс, Ф. Энгельс, У. Ленін, Сталін з абурэньнем здэмаскоўвалі й асуджалі жорсткасьць агрэсыўных дзеяньняў царскае Расеі. У сяньняшні час, аднак, савецкая рэвізыяністычная кліка верхаводаў яўна хвальсыфікуе й падрабляе гісторыю, намагаючыся зьмяніць гістарычны прысуд, вынесены старым царом, з мэтаю апраўдаць іхнюю сацыял-імпэрыялістычную палітыку агрэсыі.

Першае, яны (гэтая кліка) адкідаюць змаганьне царскай Расеі за сусьветнае панаваньне і аб'ясьняюць захоп калёніяў намаганьнямі не дапусьціць да экспаньсыі іншых дзяржаваў і даць магчымасьць мясцоваму жыхарству вызваліцца ад чужаземнага паняволеньня.

Гаворачы аб царскай палітыцы Расеі, Маркс у сваім часе зазначыў: „ейныя мэтады, ейная тактыка, ейныя манэўры могуць зьмяніцца, але пуцяводная зорка ейнае палітыкі — заўладаньне сьветам — гэта ейная непарушная зорка". Энгельс таксама казаў, што царская Расея „карыстаецца ўсьцяж зьменнымі мэтадамі спаборніцтва зь вялікімі дзяржавамі, ніколі не адступаючы ад адзінай нязьменнай мэты — сусьветнага панаваньня Расеі". У сваёй працы „Імпэрыялізм — вышэйшая стадыя капіталізму" Ул. Ленін паказаў на табліцы, што ў 1914 годзе Расея ўступала толькі Вялікабрытаніі паводля разьмеру сваіх калёніяў, агульны прастор якіх быў большы, чымся прасторы ўсіх калёніяў Францыі, Нямеччыны, ЗША і Японіі, разам узятых.

Аднак, у артыкуле, зьмешчаным у першым нумары савецкага часапісу „Новая и новейшая история" за сёлетні год цьвердзіцца, што „няма дадзеных", якія падтрымлівалі-б „сьцьверджаньне", што „мэтай царскай Расеі была гегэмонія над усім сьветам". У артыкуле кажацца: „Ува ўсёй сусьветнай гісторыі да 1917 году Расею памылкова прадстаўлялі, як галоўную й амаль адзіную сілу агрэсыі".

Другое, пасяганьні царскай Расеі на іншыя краі й спробы заваяваць іх прадстаўляюцца як ужыцьцёўленьне палітыкі „добрасуседзкіх дачыненьняў" і як падтрыманьне „вызвольнага руху" або навет як абарона супраць „агрэсыі ў дачыненьні да самой царскай Расеі".

Трэйцяе, насільная анэксыя, праводжаная царскай Расеяй, прадстаўляецца, як „дабравольнае ўзьеднаньне".

Як усім ведама, шмат якія цяперашнія саюзныя й аўтаномныя рэспублікі Савецкага Саюзу былі насільна прылучаныя да царскае Расеі . . . Але савецкія рэвізіяністыя цьвердзяць у сваёй прэсе й іншых публікацыях, што Казахі, Кіргізы, Туркмэны, Башкіры, Азэрбайджанцы, Армяне, Казакі, Грузіны, Украінцы, Беларусы, Малдавяне й іншыя народы „прылучыліся да Расейскай імпэрыі па сваёй собскай волі, а некаторыя, маўляў, „зьвярталіся з просьбай прыняць іх у склад Расеі", а яшчэ іншыя навет вялі „змаганьне за ўзьеднаньне з Расеяй". Выходзіць, што ўсюды народы запрашалі царскую Расею ўварвацца ў іхныя краі й акупаваць іх! ! !

Аднак, і гэтае лгарства даўно адкінутае ў 30-м томе „Вялікай Савецкай Энцыкляпэдыі", што выйшаў у 1937 годзе. Гэтак званае „дабравольнае падпарадкаваньне казахскага народу" — чытаем там — „гэта ня што іншае, як яўнае лгарства і міт, ліхарадкава распаўсюджваны вялікадзяржаўнымі шавіністымі й казахскімі нацыяналістымі". Гэта сяньняшніх савецкіх рэвізыяністых проста б'е па твары!

Чацьвертае, бязьлітаснае каляніяльнае паняволеньне царскай Расеяй прадстаўляецца як „шчасьлівы рай . . ."

У сваёй працы „Імпэрыялізм — вышэйшая стадыя капіталізму" Ул. Ленін прывёў табліцу, якая паказвала, што з агульнай паверхні ў 22.800.000 квадратных кілямэтраў, якія належалі Расеі ў 1914 годзе, 17.400.000 квадратных кілямэтраў былі ейнымі калёніямі. Ня раз і ня два ён называў царскую Расею „турмой народаў", пісаў, што яна „пабіла сусьветны рэкорд паняволеньня народаў". Таксама Сталін паказваў, што „агрэсыўнасьць расейскага нацыяналізму спалучалася з роляй царызму як ката ў дачыненьні да нерасейскіх народаў".

Але „История СССР", „Туркменистан", „Рідна Україна", выдадзеныя савецкімі рэвізіяністымі, сьцьвярджаюць, што „Расея прынесла краю (Сярэдняй Азіі) эру шчасьця", што царская Расея дала магчымасьць „Украінцам пазбыцца ад нязгодаў і пачаць новы пэрыяд шчасьлівага жыцьця".

Каб прадставіць царскую Расею як „шчасьлівы рай" для людзей розных нацыянальнасьцяў, савецкія рэвізыяністыя хвальшуюць гісторыю. У 32-м томе „Вялікай Савецкай Энцыкляпэдыі", выдадзеным у 1936 годзе, паказваецца, што каляніяльная палітыка царскай Расеі прынесла Кіргізам галіту й зьнішчэньне. За дзесяцігодзьдзе з 1903 па 1913 год жыхарства Кіргізіі зьменшылася на 10%. Але рэвізіяністычны правадыр у сваёй публічнай прамове цьвердзіў у 1964 годзе, што панаваньне царскай Расеі ў Кіргізіі „вызваліла Кіргізаў ад пагрозы вынішчэньня як незалежнай нацыі". У „Гісторыі СССР", выдадзенай у 1954 годзе, прызнаецца, што пасьля анэксіі царскай Расеяй у Малдавіі ствараецца „аднабаковая сельска-гаспадарская эканоміка" і ейнае „прамысловае разьвіцьцё было вельмі слабае", а гэта „аб'ясьнялася ейным статусам калёніі". Але савецкі часапіс „Вопросы истории" цьведзіў у 1968 годзе, што прылучэньне Малдавіі да царскай Расеі „абясьпечыла Малдавянам магчымасьць больш шыбкага эканамічнага й культурнага разьвіцьця". На аснове гэткай падробленай гісторыі новыя цары прыходзяць да высновы, што „прылучэньне да царскай Расеі, навет насільнае, можа ўсё-ж такі быць прагрэсыўным у гісторыі" (глядзіце „Вопросы истории" № 11-ы за 1963 год). Гэта ўзапраўды тыпічная лёгіка каляніялізму й адкрытае апраўданьне агрэсыі . . .

І ўсё-ж Брэжнёў і кампанія прадаўжаюць гаварыць аб гэтым „дабравольным узьеднаньні". Пуцянін, пасол царскай Расеі ў Кітаі сваім часам заявіў, што тэрыторыя на поўдзень ад вонкавага Хінгану „бясспрэчна належыць да Кітаю паводля ўмовы". Н. Мураўёў, царскі губарнатар Усходняга Сібіру таксама прызнаваў, што на гэтай тэрыторыі былі „кітайскія чыноўнікі й пасты". Але Брэжнёў і кампанія цьвердзяць, што жыхары згаданай тэрыторыі „ня былі пад нічыёй юрысдыкцыяй", што „там ня было адміністрацыйных органаў ураду Цына" (Цын — кітайская дынастыя 1644-1911 г. г.) і г. д., і г. д.

Узапраўды, „старанны вучань пераўзысіў вучыцеля", новыя цары пераўзысілі старых цароў!!!

Дык чаму-ж новыя цары з гэткім запалам апраўдваюць агрэсыю і палітыку экспаньсыі старых цароў?

Адказ на гэтае пытаньне, паводля Энгельса, гэткі: „Кажны Расеяц, што зьяўляецца шавіністым, рана ці позна стане на калені перад царом!" Дзьве дынастыі — Раманавых і Хрушчова-Брэжнёва — зьвязаныя чорным вязьмом, г. зн. агрэсыўным і экспансіяністычным характарам **вялікарасейскага** шавінізму й імпэрыялізму. Розьніца між імі адно ў тым, што апошняя выступае пад маскай „сацыялізму". У запраўднасьці-ж гэта „сацыял-імпэрыялізм" у сяньняшнім значаньні гэтага слова.

Але гісторыя — гэта аб'ектыўная рэальнасьць, якая не дапускае хвальсыфікацыі і якой ніхто ня можа схвальшаваць. У іхных намаганьнях апраўдаць старых цароў ды пайсьці іхнай дарогай, імкнучыся да **ўсясьветнага панаваньня,** новых цароў — Брэжнёва й кампанію — спаткае яшчэ больш бессаромны ўдзел, чымся цароў старых".

# СОРАК ДЗЁН

## (УСПАМІНЫ НАД СЬВЕЖАЙ МАГІЛАЙ)

Сорак дзён таму заўчасна перастала біцца сэрца Ліды Нікан — чулае, шчырае сэрца жонкі Мікалая Нікана, ведамага беларускага патрыёты і грамадзкага дзеяча ў Аўстраліі. Сяньня, 2-га сьнежня 1973 году, у праваслаўнай царкве на Эльм Стрыт у Мэльбурне, паводля старой хрысьціянскай традыцыі, у саракавы дзень пасьля сьмерці адбылася паніхіда за супакой душы нябожчыцы. На паніхідзе было шмат людзей — Беларусаў і іншых нацыянальнасьцяў. Усе ведалі Ліду Нікан, гутарылі зь ёй, шанавалі і паважалі яе, а яна іх таксама

„Спадарыня Ліда" — так пераважна называлі яе проста, але шчыра, ейныя блізкія й знаёмыя. Бацька нябожчыцы быў ведамым украінскім тэатральным дзеячом, акторам, носьбітам тэатральнага мастацтва. Маці з эстонскага роду. Бацька прывіў дачцы змалку любасьць да мастацтва й красы. Яна добра ведала беларускую мову і, як родную, шанавала яе. Апрача славянскіх, валодала эстонскай, швэдзкай, ангельскай, нямецкай мовамі. Спадарыня Ліда ня толькі натхняла мужа да працы, да ўзгадаваньня і выхаваньня ўзятых сіротаў-дзяцей, ня толькі шыла беларускія нацыянальныя сьцягі і вышывала сарочкі. Яна ўсім сэрцам і душою жыла ў сьвеце красы — чароўнай і вечна жывой. Мела прыгожы голас і натхненна сьпявала. Захаплялася музыкай і цаніла яе. Ведала Чайкоўскага, Бэтховэна, Моцарта, Вагнэра, Шопэна — усе іхныя музычныя творы ня толькі вычувала, але глыбока разумела. Чытала, успрыймаючы і разумеючы, ня толькі Шаўчэнку й Купалу, але Шэксьпіра й Гётэ, Байрана й Гайнэ. Цікавілася мастацкімі палотнамі Рэпіна й Рэмбрандта. Прыгадвала заўсёды пра творы эстонскага й швэдзкага народных эпасаў, шмат урыўкаў зь іх дэклямавала ў арыгінале пры сустрэчах зь сябрамі. Мы чулі словы незразумелых нам моваў, але паводля пачуцьцяў і гукаў пераймалі іхны сэнс:

*Мне адно прыйшло жаданьне,*
*Я адну задумаў думу . . .*
або:
*Плакаў стары Вайнэмайнэн,*
*каціліся чыстыя сьлёзы*
*Зь берагу ў воды бліскучыя,*
*з водаў — у немарач твані . . .*
*. . . Шчасьце і гора маіх і братоў,*
*і сясьцёр аднакроўных.*

Нябожчыца любіла вясну й кветкі. І ўсе, што праводзілі яе на вечны супачын, абдарылі ейную магілу вянкамі кветак, проста ўваскроснай крыніцай вянкоў. Кветкі зьвялі, але ніколі ня зьвяне ў душы пачуцьцё іхнага няўміручага расьцьвітаньня.

У доме, у якім жыла вечнай памяці Ліда Нікан і які гаспадар называе „Прыпынкам", у пакоі сярод кніжак (а ў гэтым пакоі заўсёды была яна), сярод плітак з запісамі музыкі і г. д., стаіць узьнёслы столік для кветак. На століку — фатаграфія нябожчыцы. З двух бакоў фатаграфіі гараць ціхапалымяныя сьвечкі. Між сьвечак — скрыначка з музыкай. Накручваецца пружына — і вы чуеце цудоўную мэлёдыю Бэтховэна, якую нябожчыца бязьмерна любіла. У мэлёдыі — горыч і плач душы пры няшчасьці, а пры радасьці — уцеха і захапленьне. І яна жыве, ня моўкне гэтая мэлёдыя ўва ўзьлёце ў высокі сьвет душы адойшлай ад нас на няўхільнай дарозе ў тое-ж адойсьце.

**А. С.**

### ПАМЯЦІ ЛІДЫ Н.

*Любіла красы паўніню,*
*ішла напярэймы дню.*
*Хто дыхаў нязгаснай красой,*
*той вечна жыць будзе, бо зь ёй.*

**А. С.**

23. 10. 1973.

### П А П Р А Ў К А

**У артыкуле А. К. „Сьвятой памяці Лідыя Нікан", надрукаваным у папярэднім нумары „Беларуса", былі наступныя недакладнасьці, якія на просьбу мужа Нябожчыцы ніжэй папраўляем: 1. прозьвішча бацькі Нябожчыцы ня „Бешанкоўскі", як было надрукавана, а — Пашынкоўскі; 2. Мікалай і Ліда пажаніліся ня ў 1950, а ў 1949 годзе; 3. ня Чырвоны Крыж выслаў Яе ў Швэцыю, а па звальненьні зь нямецкага лягеру-турмы ўдалося Ёй з групай Эстонцаў нелегальна ўцячы ў Швэцыю, дзе была каля 5 год і там пад канец і пасьля вайны працавала ў Чырвоным Крыжы, дапамагаючы ахвярам вайны. Із Швэцыі ў 1948 г. прыехала да маці ў Лёндане й там-жа адразу ўлучылася ў грамадзкае ўкраінска-беларускае жыцьцё.**

### П А Д З Я К А

**Найшчырэй дзякую ўсім тым, што адгукнуліся на маю нядолю й акалі маральную дапамогу ў гэтак цяжкі для мяне час, калі раптоўна страціў каханую Жонку й адданага Сябру жыцьця. Дзякую ўсім, што ўшанавалі Ейную Памяць.**

**Мікола Нікан**

---

вае й Завальнае. Дагэтуль можна заўважыць ейную высокую наспу, вал і роў, якія абмяжоўвалі ўласьне замак і горад пры ім, прычым першы займаў плошчу 80 на 86, а другі 110 на 400 мэтраў. Як сьветчыць „Археалягічная карта Беларусі" (Выпуск 2. Менск. 1971 г.), археалёг П. Лысенка адкапаў тут у 1966-67 г.г. вялікую колькасьць цырамікі 11-12 стагодзьдзяў, а гэтае дазваляе прыпушчаць, што горад узьнікнуў раней за час свайго першага прыпаміну ў гісторыі. Аднак калі сама зямля парупілася аб ахове археалягічных помнікаў, прыхаваўшы іх у сабе, дык затое сумны лёс пасягнуў тутэйшыя цікавыя архітэктурныя помнікі.

Здаўна аздабляла сабой Клецк мураваная двухвежавая Ўваскрасенская царква, што знаходзілася на рагу Ўваскрасенскае-ж вуліцы й Рынкавае плошчы, і ў ейным сутарэньні была іншая маленькая царква, або — крыпта, дзе адпраўляліся Божыя Службы ўзімку, бо яна агравалася. У кагадзе прыгаданай мной „Гісторыі архітэктуры Беларусі" Ул. Чантурыі яе можна бачыць з кумпаламі, а на здымку ў кніжцы В. Жучкевіча „Гарады й сёлы Беларусі" (Менск. 1959 г.) яна пададзеная бязь іх. Каб усё зразумець, дазвольце прывесьці вытрымку зь інтэрвю супрацоўніка Акадэміі навук БССР В. Нікіціна „Летапіс векапомнага", апублікаванага ў газэце „Літаратура і мастацтва" ад 9-га сьнежня 1969 г.:

„У самым Клецку ёсьць, правільней была, Уваскрасенская царква рэнэсансавага тыпу (17 стаг.), якіх наагул няма на Беларусі. Бязь ведама Міністэрства культуры БССР мясцовыя ўлады вырашылі ўсяліць туды нейкі цэх заводу. Прабілі шырокія вокны, зялезабэтонным перакрыцем разрэзалі ўнутраную прастору на два паверхі. Распрацаваў праект гэтае перабудовы інстытут „Белпрампраект" (Галоўны інжынер І. Хацкін). Калі наш супрацоўнік паспрабаваў гутарыць па ўсіх гэтых справах із старшынём Клецкага райвыканкому Я. Валністым, гэты адказны кіраўнік павёў сябе груба, заявіў, што яму „трэба будаваць матарыяльную базу, а не займацца цэрквамі, эстэтыкай".

Між іншым, трэба шчыра заўважыць, што рупар гэтых валністых — вельмі ўбогая тутэйшая раённая газэтка мае надзвычай вычарпальную для іх па свайму местачковаму гумару назву, а менавіта — „Да новых перамог". Паказальна таксама, што тутэйшыя ўлады й Рынкавай плошчы надалі ймя Маякоўскага, хоць той аніякага рашуча дачыненьня да Клецку ня меў. І каб не валністыя, дык гэтая плошча, магчыма, дастала-б імя вялікага беларускага гуманістага Сымона Будная, які з 1560-га па 1562-і год жыў і працаваў у Клецку, дзе была тады друкарня.

Разам ізь зьнішчэньнем Уваскрасенскае царквы зьнікнуў у невядомасьці і старажытны цудадзейны абраз Клецкае Божае Маці, які спачатку знаходзіўся ў тутэйшай Пакроўскай царкве, а потым ужо быў перанесены сюды. Ён вельмі шанаваўся ў народзе і аб ім існавала паданьне, што калі за часы Паўночнае вайны Швэды ўвялі ў царкву коні, дык ня ў стане былі іх адтуль вывесьці і валтузіліся зь імі, пакуль не падасьпеў літоўскі аддзел ды пазабіваў іх. Гэты сьвяты абраз, апрача свайго рэлігійнага значэньня, зьяўляўся мастацкім, гістарычным і нацыянальным помнікам, але што валністым да гэтага.

Пагроза зьнішчэньня, паводля прапановы газэткі „Да новых перамог", навісла над другім архітэктурным помнікам Клецку — тымчасова яшчэ дзейнай, старадаўнай драўлянай Пакроўскай царквой, якая знаходзіцца адразу за горадам на гасьцінцу да Нясьвіжу, на горцы пасярод вялікага праваслаўна-каталіцкага могільніку. Між іншым, яна чамусьці больш вядомая ў народзе пад назвай Арынінскае, а часам тубыльцы проста кажуць — „Пад Арынкай" — маючы на ўвазе царкву й могільнік. Пад склад вытворча-харчовага камбінату ўжыты цяпер вялізны фарны аднавежавы касьцёл на Слонімскай вуліцы. Ужо па вайне разбурылі цікавую па свайму стылю драўляную мячэць і старую мураваную сынагогу, што была таксама на Слонімскай, якой нададзена цяпер імя вуліцы Гагарына.

Побач зь Беларусамі — праваслаўнымі й каталікамі — услаўлялі ў здаўна веразносным Клецку па свайму Бога юдзеі гэбрэі й мусульмане татары, пакуль не абвалілася на ўсіх іх бязбожная расейска-бальшавіцкая навала. І тут, як супрацьлеглае, адразу прыгадваецца адна характэрная для вольнага сьвету падзея, якая мае дачыненьне да Клецку.

У пачатку 60-х гадоў у Нью Ёрку, у ягоным Брукліне, памёр у вельмі старым веку ўцякач ад фашызму й сугучнага яму бальшавізму рабін Арон Катляр. Ён атрымаў духоўную асьвету ў Міры, а ў Клецку на працягу некалькіх дзесяцігодзьдзяў зьяўляўся адным зь ягоных апошніх рабінаў. І ў Амэрыцы, як і ў Клецку, рабін Катляр набыў паміж вернікамі вялікія аўтарытэт і пашану. Паказальна, што ў пахавальнай працэсіі да аэрадрому ўдзельнічала 75 тысяч асобаў і блізу 200 аўтаў. Яго пахавалі ня побач зь ягонымі бацькамі на паруганым гэбрэйскім могільніку пры дарозе з Клецку да Баранавічаў, а ў вольналюбным Ізраілю, гэраічная гісторыя якога зьяўляецца бліскучым узорам для ўсіх паняволеных бальшавізмам народаў.

А можа хто-небудзь пачне даводзіць, што я сьвядома абмінаю росквіт культуры ў сучасным Клецку, бо, паводля БелСЭ, у ім, маўляў, ёсьць сярэдняя школа, музычная, прафэсыйна-тэхнічнае вучылішча і г. д. Так, усе гэтыя навучальныя ўстановы запраўды ёсьць, але й разам узяты яны ня вартыя аднае Клецкае Беларускае гімназіі, хоць і праіснавала яна ўсяго з 1924-га па 1931-ы год. Калі ў сучасных тутэйшых школах родная матчыная мова — вопратка народнае душы — ужываецца толькі на неабавязковых лекцыях беларускае мовы ды калі імкнуцца яны вылучна да абмаскальваньня нашага народу і практыкуюць усялякае ўслаўленьне ягонага галоўнага адвечнага ворага — Расейцаў, дык слаўная Клецкая Беларуская гімназія, якая штогод урачыста абыходзіла народнае сьвята 25 сакавіка, а сьцены ейных клясаў былі ўпрыгожаныя нацыянальнымі эмблемамі, зьяўлялася кузьняй патрыятызму.

Шмат выдатных дзеячоў загартаваліся тут, каб да скону свайго змагарнага жыцьця заставацца перадусім і дарэшты Беларусамі. І хай сабе для цяперашняе сярэдняе школы пабудавалі тут вялікі будынак на вуліцы ймя Гагарына, тады як Клецкая Беларуская гімназія месьцілася ў сьціплых дамох сьпярша паблізу Пакроўскае царквы, а потым па Татарскай вуліцы, але яны заслугоўваюць мэмарыяльных дошкаў.

А магчыма каго-небудзь цалком задавальняюць тыя новыя дробныя прадпрыёмствы, якія адкрыліся ў Клецку, як у раённым цэнтры Менскае вобласьці БССР, накшталт розных садовіна-гародніх камбінатаў, дык яны-ж тыповыя таксама для тысячаў іншых раённых цэнтраў СССР ад Рыгі да Ўладывастоку і нічым рашуча ўласьне для Клецку не паказальныя. Горад бадай згубіў сваё апрычонае нацыянальнае аблічча і першы-лепшы турысты, калі толькі яму дазволяць наведаць Клецк, не адразу зразумее, дзе менавіта ён апыніўся — ці на Беларусі, ці, прыкладам, у Разанскай вобласьці РСФСР. Аднак мы ня трацім надзеі.

Хай сьпяць вечным сном гэроі Краснага Ставу, але затое несьмяротны іхні дух ніколі не памрэ ў беларускім народзе. Калі разам з усімі паняволенымі Масквой народамі паўстане Беларусь ды сьскіне зь сябе расейска-бальшавіцкія ланцугі, тады адродзіцца разам зь ёю і слаўны Клецк. А сумесна зь ім адшукае сваё апрычонае прыгожае рэчышча ягоная зьнявечаная Лань і да ейных адроджаных берагоў вернуцца з выраю зьніклыя цяпер салаўі.

**Юрка Віцьбіч**

 

# ШТО ЧУВАЦЬ?

**Беларускія пэрыядычныя выданьні** становяць частку калекцыі „Амэрыканска - славянскае спадчыны", якую арганізавала студэнцкае таварыства пры Гарадзкім Каледжы Ньюёркаўскага Гарадзкога Ўнівэрсытэту (апякуецца студэнцкім таварыствам праф. П. Гой). Зь беларускіх выданьняў у калекцыі ёсьць: „Баявая Ўскалось", „Беларус", „Беларуская Думка", „Беларускі Голас", „Беларуская Моладзь", „Факты пра Беларусь". Ніякага з гэтых выданьняў, аднак, няма раней 1971 году. Калі-б хто хацеў даслаць папярэднія гадавікі, пасылаць трэба на адрыс: Prof. P. Goy, Slavic American Heritage, 201 Goethall Hall, City College, New York, N. Y. 10035.

**Беларускія сувэніры** (інкрустацыя саломкай), адзінаццаць розных абразкоў з народнымі матывамі, пералічаныя ў каталёгу кніжнага магазыну Віктара Камкіна. Каталёг загалоўлены "Russian Folk Arts and Crafts" і высылаецца задарма на запатрабаваньне. Цана абразкоў ад чатырох да дзевяцёх даляраў. Сувэніры — у каталёгу яны завуцца „Жлобінскімі інкрустацыямі" — могуць служыць добрым сьвяточным падарункам. Пісаць на адрыс: V. Kamkin, 12224 Parklawn Dr., Rockville, Md. 20852.

**Вялікі артыкул пра Беларусь** быў надрукаваны ў італьлянскім часапісе „Рэальта Советыка" за люты-сакавік сёлетняга году. Часапіс выдаецца ў Рыме Італьлянска-савецкім таварыствам дружбы. Артыкул багата ілюстраваны й падае афіцыйную прапагандавую вэрсію жыцьця беларускага народу. У артыкуле шмат пра гістарычны й эканамічны аспэкты БССР і блізу нічога пра культурны (пішучы бо пра культуру, даводзіцца больш гаварыць пра нацыянальныя асаблівасьці — тое, што савецкая прапаганда навонкі стараецца затушоўваць). Артыкул напісаў Мікалай Міхайлаў.

**Пра Вольгу Корбут** надрукаваны невялікі артыкул у вышэй згаданым італьлянскім часапісе „Рэальта Советыка", у нумары за кастрычнік сёлета. Здымак Вольгі зьмешчаны й на вокладцы часапісу. Пра чэмпіёнку сказана, што яна паходзіць зь беларускага гораду Горадня, дзе яна нарадзілася 16 травеня 1955 году. Падаецца рост і вага гімнасткі: 155 цм., 38 кг.

**Рэцэньзіі на кнігу праф. І. Любачкі „Беларусь пад савецкім кіраваньнем, 1917-1957 гг."** надрукаваныя ў часапісах „Славік Рэв'ю" (орган амэрыканскае асацыяцыі славістых), т. 32, нр. 2 (чырвень 1973) і ў брытанскім часапісе „Славонік энд Іст Юропіэн Рэв'ю", т. 51, нр. 125 (кастрычнік 1973). Амэрыканскі рэцэнзэнт, праф. Джон Армстронг зь Ўісконсынскага ўнівэрсытэту працу Любачкі ацаніў адмоўна: Любачка, піша рэцэнзэнт, апрача таго, што папрапускаў шмат якія дакумэнтальныя крыніцы, „не сфармуляваў асноўных пытаньняў разьвіцьця Савецкае Беларусі, навет калі ён і ня мог-бы адказаць на іх канчальна". Брытанскі рэцэнзэнт, праф. Джэймс Дынглі, прызнае, што Любачка „сабраў шмат матар'ялу з розных крыніцаў", але „пакінуў зашмат пытаньняў неабмеркаванымі". Між іншага, рэцэнзэнт адзначае Любачкава няпоўнае насьвятленьне гісторыі БНР, а таксама ягонае галаслоўнае цьверджаньне, што другі Ўсебеларускі кангрэс у чырвені 1944 году, скліканы ў часе адступленьня Немцаў зь Беларусі, быў прадстаўнічым „беларускае інтэлігенцыі, сялянаў і работніцкае клясы".

**У чародным нумары ілюстраванага квартальніка „Беларуская Моладзь", год 2-і № 1 (31) з датаю „Восень — 1973"** надрукаваны артыкул Юркі Азаркі пра нацыянальныя назовы Беларусі, Раісы Станкевіч „Полацкая Зямля", Яраславы Тумаш пра мастацкую выстаўку Язэпа Казьлякоўскага, Галіны Тумаш пра адпачынковае селішча „Слуцак" у Канадзе, Аліцыі Кіпель пра беларускую скаўцкую групу ў Саўт Рывэры, зацемка пра Слуцкае Паўстаньне й верш, прысьвечаны яму, Веры Рыч, а таксама вершы Веры Запруднік, Андрэя Гасьцеева і Наты Русак — усё гэта ў ангельскай мове. У беларускай мове надрукаванае апавяданьне Власта — Вацлава Ластоўскага „Дудар" ды верш Янкі Купалы „Жняя". Нумар канчаецца хронікай з жыцьця беларускіх маладзежных арганізацыяў у ЗША й Канадзе. Цана аднаго нумару — $ 1.00, падпіска на год — $ 4.00.

## СЯРЭБРАНЫ ЮБІЛЕЙ

Заля БР-ГЦ у Тароньце была тым вясёлым і радасным месцам у сыботу 24 лістапада, дзе радня й прыяцелі супольна адсьвяткавалі сярэбраны юбілей сужэнства Ліды й Уладзімера Целяшоў. На інтэнцыю Юбіляраў Уладыка Мікалай, спэцыяльна прыбыўшы з Дэтройту, адслужыў адмысловую вячэрню, пасьля чаго прысутныя сабраліся на пачастунак, на якім былі ўручаныя Юбілярам падарункі. Пра заслугі сп-ва Целяшоў гаварылі сп. сп. В. Навіцкі й М. Стэльмашак, якіх яны маюць цімала. Былі прывітаньні й ад іншых. Урачысты вечар прайшоў весела і ўдала. Быў ён і павучальным, калі госьці пачулі апавяданьні пра мучаніцкі жыцьцёвы шлях і цярпеньні сп. Целяша ў савецкіх лягерах Сібіру.

**А.-віч**

---

будзе. На другое — хваршараваныя баранія рэбрычкі (Стары Партыец адною рабрыною бавіўся). Мяса на рэбрычках не абрэзанае, дый хваршараваныя яны грэцкаю кашай напалам зь мясам ды шчодра палітыя сьметанковым маслам. На трэйцяе— кампот з хруктаў: цэленькія вішні, урук ды жоўценькія скрылікі яблыкаў вока цешаць. Посуд таксама, барані Божа, ня сьлізкі. Ем я, а хлапчанё-чыноўнік на мяне паблажліва паглядае: бач, якія мы тут, ня пальцам робленыя!

Я-ж у галаве прыкідваю, што за такі абед у звычайным рэстаране больш за два рублі-б заплаціў, а тут усяго 60 капеек. Урадавая эканомія! Грошыкі то яны тыя-ж, „нарыцацельная стоімасьць" на іх напісаная тая самая, а вось тавару, у гэтым разе ежы, нешта ўтрая больш дый куды лепшае якасьці там я меў. Потым чыноўнік быццам так між іншага, расказвае мне, што едзе на Каўказ у спэцыяльны санаторы на месяц ды з усёю сям'ёй. Пытаюся, мо хвароба якая обчая ягоную сям'ю апанавала (бо-ж ведама, што ў санаторыі адно на ськіраваньне доктара езьдзяць). Дый ведаючы, што зарабляе ён ня больш за іншых савецкіх грамадзянчыкаў, проста робіцца яго шкада. Гэта-ж на аднаго чалавека пуцёўка ў санаторы каштуе 110-180 рублёў, а тут на ўсю сям'ю набраць трэба. Спагадліва кажу дамаўрадаўцу пра ягоныя выдаткі, а ён, гэтак пабацькаўску на мяне пазіраючы, удакладняе, што пуцёўкі санаторныя сямейныя выдаюцца штогоду ім задарма. „Нам гэта па штату паложана", — тлумачыць ён. Пасьля даведваюся, што білеты на праезд туды й назад да пуцёвак дарэмныя таксама „па штату" дакладаюцца. Ну, а каб у дарозе ня горш за іншых савецкіх грамадзянаў было, дык месячны аклад звыш адпускных даецца на так званыя кішанёвыя выдаткі. „Усё гэта не зарплата, ці як некаторыя кажуць, „не зря плата", — жартуе ўрадавец.

Папалуднаваўшы ды выйшаўшы з залі, заўважыў я невялічкі бухвэцік, сьціпла заціснуты ў калідорчыку. Тут дамаўрадавец спыняецца на мамэньцік: „Падбярэце мне пакецік на заўтра: паляндвіцы вяленай з паўкіла, пару пушак паюснай ікры, гарэлкі мэдалёвае, таматаў баўгарскіх ачышчаных . . ."

Пакуль ён вядзе пералік, я цікаўлюся вітрынай ды бачу, што каўбасаў і сыроў ды балыкоў там розных, якіх хаця назоваў, дый іншае прадукцыі, што гадамі ў звычайных магазынах ня бывае. Бачу курыцу абскубленую жоўценькую такую. Звычайна ў гарадзкіх магазынах яна каштуе два пяцьдзесят за кіло. У гэтым-жа бухвэціку, нат вачом веры няма, усяго рубель дваццаць. Яно-ж, праўда, у звычайных магазынах па рубель дваццаць курэй калі-ні-калі і самі бачылі, але сініх, зморшчаных, скура ды косьці, а нярэдчас і з душком-пушком.

Разьвітваўся дамаўрадавец, ужо не хаваючы перавагі ў вачох сваіх, як з ласкі тыцнуўшы мне сваю руку.

Так што, вось бачыце, якія сакрэты перакрываў грудзьмі ад вас міліцыянер, — Дзед Самуйла павярнуўся да Старога Партыйца. —Сьціпла жывуць кіраўнікі нашыя, як за камунізьмаю тэю . . .

**Алесь Вожык**

## СЬВ. ПАМ. БАРБАРА МАРЦІНКЕВІЧ

24-га кастрычніка сёлета ў Лёндане на 71-м годзе жыцьця адыйшла на вечны супачынак Барбара Марцінкевіч — шчырая Беларуска й пабожная хрысьціянка.

Нябожчыца нарадзілася ў вёсцы Лонскія Шаркаўскага раёну. Яна рана страціла свайго мужа й, будучы ўдавою з траіма малымі дзецьмі, перанесла шмат гора. Але ня гледзячы на цяжкае матарыяльнае становішча, яна выгадавала й адукавала сваіх дзяцей добрымі й ахвярнымі Беларусамі.

Пасьля Другое сусьветнае вайны сям'я Марцінкевічаў апынілася ў Нямеччыне (Ватэнштэт), а пасьля пераехала ў Ангельшчыну.

На першых пачатках беларускага эміграцыйнага жыцьця дом Марцінкевічаў у Брадфардзе быў прытулкам для шматлікіх Беларусаў. Яны часта знаходзілі там месца дзе пераначаваць і пасілкавацца. Нябожчыца Барбара дзялілася з намі апошняй пайкай хлеба і спрыяла ўсёй душою нашай патрыятычнай дзейнасьці. Яе дапамогу й ахвярнасьць мы ніколі не забудзем.

Праводзіць яе ў вапошнюю дарогу сабралася вялікая колькасьць знаёмых, прыяцеляў і родных зь Лёндану, Брадфарду й іншых мясьцін Ангельшчыны. Было атрымана шмат спачувальных лістоў. На магілу было ўскладзена шмат вянкоў.

Заўпакойную службу ў капліцы на могілках Норд Фінчлі ў праваслаўным абрадзе адслужыў а. Янка Пякарскі. У прачулым казаньні ён падчыркнуў цяжкі жыцьцёвы шлях нябожчыцы, яе ахвярнасьць і адданасьць Богу й людзям і яе глыбокія хрысьціянскія прынцыпы.

Кароткую прамову над магілай сказаў таксама біскуп Сіповіч.

Нябожчыца пакінула ў вялікім смутку дачку, зяця і ўнукаў у Ангельшчыне ды сваякоў і родных, раськінутых па ўсім сьвеце.

Няхай ёй будзе лёгкая чужая зямелька й вечны супакой у Бога!

**Прыяцель**

***

**Заміж вянка на магілу нядаўна памерлай сьв. пам. Барбары Марцінкевіч-Мідэйло тры ангельскія фунты дару на газэту „Беларус", — А. Лашук**

## АГУЛЬНЫ СХОД У РЫЧМОНД ГІЛ

У нядзелю 25 лістапада сёлета адбыўся Агульны Сход Прыхаджанаў Беларускай Праваслаўнай Царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмонд Гіл, Нью Ёрк.

Перад Сходам быў адпраўлены малебен, а таксама пасьвечаная табліца, што была ўмураваная ў сьцяну царквы тыдзень раней. Яна была падараваная Прыходу сп. Канстанцінам Кардовічам, які мае каменнае прадпрыёмства на Джамэцы ў Нью Ёрку.

Сход адбыўся ў собскай залі пры 104-29 Атлянтык эвэню, Рычмонд Гіл у Нью Ёрку. За старшыню Сходу быў выбраны інж. І. Касяк, за сакратара сп. В. Шчэцька.

Із зробленых сябрамі Царкоўнай Управы справаздачаў выявілася, што жыцьцё Прыходу й дзейнасьць Царкоўнае Ўправы й Камітэту будовы царквы былі вельмі інтэнсыўнымі. Прыход меў гадавы абарот $ 13,848.00. У фонд будовы ўнесена ў 1973 г. $ 6,322.00. З пададзенай інфармацыі мы даведаліся, што Сястрыцтва мела $ 5,900.00 прыходу ў справаздаўчым годзе.

Уступаючай Управе была выказаная падзяка з абсалюторыюм, а асаблівая падзяка скарбніку П. Мельяновічу й старасту А. Завалоку за іхную адданую працу. Таксама Сход вынес шчырую падзяку настаяцелю а. Сьвятаславу Каўшу, матушцы Веры Коўш і дырыгенту царкоўнага хору Сымону Жамойду за іхную адданую й бескарысьлівую працу для царквы.

На прапанову Рэвізійнае Камісіі Сход вынес шчырую падзяку Царкоўнай Управе й даручыў ёй давесьці да канца выканчэньне царквы й грамадзкага цэнтру пры ёй. На Сходзе быў разгледжаны, апрацаваны адмысловай камісіяй, новы статут Прыходу ды прыняты Сходам.

У новую Царкоўную Ўправу былі выбраныя: Я. Казьлякоўскі — старшыня, К. Мерляк — заступнік старшыні, В. Шчэцька — сакратар, П. Мельяновіч — скарбнік, А. Завалока — стараста, Л. Ляўковіч — заступнік старасты, П. Зыбайла — сябра Ўправы. У Рэвізыйную Камісію выбраныя: М. Бразоўскі — старшыня, Я. Муха — сакратар, П. Клінцэвіч — сябра.

З прынятага бюджэту й пляну працы прысутныя даведаліся, што ў наступным годзе павінна быць поўнасьцяй закончаная будова царквы. Сьпісак ахвярадаўцаў будзе адкрыты яшчэ цэлы год да наступнага „Дня Ўдзячнасьці", а пасьля будзе закрыты. Мае быць уфундаваная спэцыяльная сталая табліца і ўмураваная ў сьцяне з поўным сьпісам ахвярадаўцаў. Гэткім парадкам, хто яшчэ хоча дадаць сваё прозьвішча або пабольшыць ахвяраваную суму, можа зрабіць гэта ў як найхутчэйшым часе.

**К. Ц.**

### БЕЛАРУСКАЕ ВЯСЕЛЬЛЕ

Сыбота 10 лістапада была вялікім днём для маладой пары Міхася Кавалёва й Карын Рышардс, як і для іхных бацькоў і радні — яны ў гэты дзень узялі шлюб ад Уладыкі Мікалая ў БАПЦарквe Сьв. Кірылы Тураўскага ў Тароньце. Увечары ў тамашняй залі адбыўся вясельны пачастунак з удзелам вялікай школьнай аркестры, што грала да танцаў, а пазьней весяліў усіх МС Обры Гадсон прафэсыйнай сваёй апэратурай з прыгаворкамі.

Жаніх добра ведамы парахвіянам гэтае царквы сваім даўгагадовым прыслугоўваньнем сьвятару, як і актыўнасьцяй у беларускай маладзежнай арганізацыі. Дык шчасьці й спары Вам Божа! **А.-віч**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"

**За папярэдні пэрыяд (месяц лістапад) паступілі ў касу нашае газэты падпіска й наступныя ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса":**

**1. ЗША:**

**А. Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | |
|---|---|
| 1. Л. і Ул. Брылеўскія | $ 50.00 |
| 2. Б. Данілюк | 35.00 |
| 3. М. Заморскі | 30.00 |
| 4. П. Алексы | 30.00 |
| 5. В. і М. М. | 20.00 |
| 6. Д-р А. Вярбіцкі | 20.00 |
| 7. М. Мароз | 20.00 |
| 8. Д-р В. Рамук | 20.00 |
| 9. С. Татарыновіч | 20.00 |
| 10. М. Сьнежка | 15.00 |
| 11. Д. Сямёнаў | 15.00 |
| 12. Я. Калютык | 15.00 |
| 13. Я. Гуткоўскі | 10.00 |
| 14. Ю. Андрусышына | 10.00 |
| 15. М. Грэбень | 10.00 |
| 16. Д-р Я. Запруднік | 10.00 |
| 17. Я. Чарнэцкі | 10.00 |
| 18. Ул. Курыла | 10.00 |
| 19. А. Міцкевіч | 10.00 |
| 20. М. Кунцэвіч | 10.00 |
| 21. Ю. Найдзюк | 10.00 |
| 22. Д-р Б. Грабінскі | 10.00 |
| 23. Н. Арсеньнева | 10.00 |
| 24. А. Шукелайць | 10.00 |
| 25. Я. Каханоўская | 10.00 |
| 26. Інж. Л. Норык | 10.00 |
| 27. Я. Казьлякоўскі | 10.00 |
| 28. А. Русак | 10.00 |
| 29. Інж. Я. Бруцкі | 10.00 |
| 30. Я. Навагродзкі | 7.00 |
| 31. Нуся Стус | 5.00 |
| 31. Я. Юхнавец | 5.00 |
| **Разам:** | **$ 477.00** |

**Б. Сабрана сп. Б. Даніловічам сярод суродзічаў Нью Джэрзі:**

| | |
|---|---|
| 1. Schack's Hall, Inc. | $ 25.00 |
| 2. В. Арцюшэнка | 20.00 |
| 3. С. Чыгіровіч | 20.00 |
| 4. М. Каранеўскі | 16.00 |
| 5. Я. Падарожны | 12.00 |
| 6. Л. Л. | 12.00 |
| 7. Д-р Г. Сокал | 10.00 |
| 8. А. Непейн | 10.00 |
| 9. В. Стома | 10.00 |
| 10. Л. Стагановіч | 10.00 |
| 11. А. Галелюк | 10.00 |
| 12. Інж. М. Бахар | 10.00 |
| 13. А. Субота | 10.00 |
| 14. Ф. Родзька | 10.00 |
| 15. Н. Стома | 10.00 |
| 16. Б. Даніловіч | 10.00 |
| 17. Інж. Э. Ясюк | 10.00 |
| 18. Р. Арцюшэнка | 10.00 |
| 19. А. Гурын | 10.00 |
| 20. Ул. Сітнік | 10.00 |
| 21. С. Гутырчык | 10.00 |
| 22. Я. Азарка | 10.00 |
| 23. А. Стагановіч | 10.00 |
| 24. Матушка М. Войтэнка | 10.00 |
| 25. М. Войтэнка | 10.00 |
| 26. Р. Войтэнка | 10.00 |
| 27. Інж. Ч. Ханяўка | 10.00 |
| 28. М. Палюховіч | 8.00 |
| 29. Я. Сокал | 6.00 |
| 30. Я. Літвіненка | 6.00 |
| 31. А. Белаец | 6.00 |
| 32. А. Даніловіч | 6.00 |
| 33. П. Талмачэвец | 6.00 |
| 34. В. Грузд | 6.00 |
| 35. Я. Груцько | 5.00 |
| **Разам:** | **$ 364.00** |

**В. Сабрана сп. Я. Лукашэвічам (старэйшым) сярод суродзічаў Кліўленду:**

| | |
|---|---|
| 1. Інж. К. Калоша | $ 50.00 |
| 2. П. П. | 20.00 |
| 3. Я. Лукашэвіч (малодшы) | 10.00 |
| 4. А. Вышынскі | 10.00 |
| 5. Я. Лукашэвіч (старэйшы) | 15.00 |
| 6. Я. Каваленка | 10.00 |
| 7. М. Страпко | 10.00 |
| 8. Т. Кананчук | 10.00 |
| 9. Ул. Дунец | 10.00 |
| 10. М. Ягаўдзік | 10.00 |
| 11. Ж. Трацьцяк | 10.00 |
| 12. Я. Раковіч | 10.00 |
| 13. К. Каляда | 5.00 |
| 14. А. Яраховіч | 5.00 |
| 15. І. Каваленка | 5.00 |
| 16. В. Сьпічонак | 5.00 |
| 17. Х. | 5.00 |
| 18. Ул. Карніловіч (з Англ.) | 10.00 |
| **Разам:** | **$ 210.00** |

**II. КАНАДА:**

**Сабрана на сьвяткаваньні 25-х угодкаў Згуртаваньня Беларусаў Канады 1 сьнежня 1973 у Тароньце (зьбіраў сп. А. Маркевіч):**

| | |
|---|---|
| 1. Д-р Р. Жук-Грышкевіч | $ 50.00 |
| 2. Сп-ва І. і Я. Сурвілы | 30.00 |
| 3. К. Акула | 20.00 |
| 4. Клюб „Пагоня" | 15.00 |
| 5. А. Маркевіч | 10.00 |
| 6. А. Грыцук | 10.00 |
| 7. Марыя й Мікола Ганько | 20.00 |
| 8. Л. Карыба | 10.00 |
| 9. В. Пашкевіч | 10.00 |
| 10. Я. Чорны | 7.00 |
| 11. А. Пратасеня | 6.00 |
| 12. М. Радчанка | 6.00 |
| 13. Н. С. | 6.00 |
| 14. Ул. Целеш | 5.00 |
| 15. Я. Пілярскі | 5.00 |
| 16. Я. Пітушка | 5.00 |
| 17. С. Андрон | 5.00 |
| 18. М. Аляксеевіч | 5.00 |
| 19. В. Касьцюкевіч | 5.00 |
| 20. Д-р Я. Скурат | 3.00 |
| 21. Б. Кірка | 3.00 |
| 22. Г. Барановіч | 2.00 |
| 23. Г. Харэвіч | 2.00 |
| 24. С. Шульга | 2.00 |
| 25. Б. Лішчонак | 1.00 |
| **Разам:** | **$ 243.00** |

**Б. Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | |
|---|---|
| 1. І. і Я. Сурвіла | $ 10.00 |

**IV. АЎСТРАЛІЯ:**

**А. Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | |
|---|---|
| 1. Д-р. Язэп Малецкі (ЗША) | $ 17.82 |

**Б. Сабрана сп. сп.А. Качаном і М. Лужынскім сярод суродзічаў Сыднэю (у аўстралійскай валюце):**

| | |
|---|---|
| 1. Д-р Я. Малецкі | $ 50.00 |
| 2. С. і О. Нарушэвічы | 20.00 |
| 3. К. Сіткоўскі | 20.00 |
| 4. Ананімна | 20.00 |
| 5. А. Качан | 10.00 |
| 6. М. Лужынскі | 10.00 |
| 7. М. Бакуновіч | 10.00 |
| 8. А. Васіленя | 5.00 |
| 9. А. Смаль | 5.00 |
| 10. М. Антух | 5.00 |
| 11. А. Булаўскі | 5.00 |
| 12. Я. Гавенчык | 5.00 |
| 13. В. П. | 3.00 |
| 14. Я. Шкода | 2.00 |
| **Разам у аўстр. валюце** | **$ 170.00** |
| **што дае ў ЗША** | **$ 252.00** |

**В. Сабрана сп. Міколам Ніканам сярод суродзічаў Мэльбурну агульнай сумай ...... ЗША $ 148.50**

**V. АНГЕЛЬШЧЫНА**

1. Аляксандар Лашук ЗША $ 7.02

**VI. ФРАНЦЫЯ:**

1. Я. Сітко ...... ЗША $ 6.00

**VII. ЗА КЛІШЫ, АБВЕСТКІ Й СЯМЕЙНУЮ ХРОНІКУ:**

| | |
|---|---|
| 1. К. Барысавец за клішу | $ 10.00 |
| 2. Ч. Найдзюк за клішу | 10.00 |
| **Разам:** | **$ 20.00** |

**Усяго разам: ЗША $ 1,755.34**

**Усім тым, што прыслалі грошы, Рэдакцыйная Калегія „Беларуса" выказвае шчырае беларускае дзякуй!**